*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 19 (75) ◈ 13 мая 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

*ЯК ЗВЫЧАЙНА, ВА УРАЧЫСТАЙ АБСТАНОЎЦЫ АДЗНАЧЫЛА БЕЛАРУСЬ ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫЗМАМ. Былі святочныя феерверкі, ускладанне вянкоў да помнікаў і абеліскаў, традыцыйныя пасяджэнні з удзелам кіраўніцтва рэспублікі, грамадскіх і рэлігійных арганізацый.*

НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА ПЕРАМОГІ КІРАЎНІК УРАДА БЕЛАРУСІ В. КЕБІЧ УПЕРШЫНЮ ЎРУЧЫЎ ГЕНЕРАЛЬСКІЯ ПАГОНЫ СУПРАЦОЎНІКАМ МІНІСТЭРСТВА ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ І МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ. ЗВАННЕ ГЕНЕРАЛ-ПАЛКОЎНІКА ПРЫСВОЕНА МІНІСТРУ АБАРОНЫ П. П. КАЗЛОЎСКАМУ.

*УСЁ БОЛЬШ ЗАМЕЖНЫХ ДЫПЛАМАТАЎ УРУЧАЮЦЬ ВЯРЫЦЕЛЬНЫЯ ГРАМАТЫ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. ШУШКЕВІЧУ. НЯДАЎНА КІРАЎНІКУ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА БЫЛІ ПРАДСТАЎЛЕНЫ НАДЗВЫЧАЙНЫЯ І ПАЎНАМОЦНЫЯ ПАСЛЫ КІТАЙСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ — ВАЙ СІНДА, ФІНЛЯНДСКАЙ РЭСПУБЛІКІ — ТОЛВАНЕН, ТУРЭЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ — ТАНСУ АКАНДАН І ІТАЛЬЯНСКАЙ РЭСПУБЛІКІ — ДЖАНЛУКА БЕРЦІНЕТА.*

У ВАКОЛІЦАХ МЕНСКА ПРАВЕДЗЕНА МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ РУХАЎ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧАГА НАКІРУНКУ ПАД НАЗВАЙ «ШЛЯХІ ПАБУДОВЫ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДЗЯРЖАВЫ». Раней такія абмеркаванні праходзілі пад лозунгам змагання «зняволеных народаў савецкай імперыі». У канферэнцыі прынялі ўдзел дэлегацыі як з краін СНД, у тым ліку і ад Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, так і з-за мяжы.

*АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ КААРДЫНАЦЫЙНАГА САВЕТА МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ТАВАРЫСТВАЎ СПАЖЫЎЦОЎ — НЯДАЎНА СТВОРАНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ, У ЯКУЮ УВАХОДЗІЦЬ І ТАВАРЫСТВА АБАРОНЫ СПАЖЫЎЦОЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. НАПЯРЭДАДНІ ПАСЯДЖЭННЯ ВЫЙШАЎ ПЕРШЫ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ НУМАР ГАЗЕТЫ «ЗАБОТА», ШТО ПРАДСТАЎЛЯЕ ІНТАРЭСЫ СПАЖЫЎЦОЎ РЭСПУБЛІКІ. Пэўна, ужо такая рэдкая перыядычнасць выхаду газеты сведчыць аб «зацікаўленасці» Таварыства ў адстойванні інтарэсаў спажыўцоў. Ці мо матэрыялаў для падрыхтоўкі газеты ў журналістаў не хапае?..*

## РАЗГЛЕДЗЕЦЬ... РОДНАЕ СЛОВА




Кіёскаў «Саюздруку» ў Менску гэтулькі, што пальцаў на руках не хопіць, каб пералічыць. Але як захварэе дзе кіяскёр, то для жыхароў пэўнага мікрараёна ўзнікаюць праблемы: дзе купіць свежыя газеты ці патрэбны нумар часопіса.

Марыя Ігнатаўна Танковіч стараецца не хварэць. Імкнецца яна і прывецізь, не абмінуць увагай, прыязнай усмешкай пакупніка. І калі параўноўваць Марыю Ігнатаўну з іншымі гаспадынямі кіёскаў, то ні ў каго з гандляроў перыёдыкай не даводзілася чуць такой прыгожай і чыстай беларускай мовы.

Шчыра рэкламуе Марыя Ігнатаўна пакупнікам беларускія літаратурна-мастацкія часопісы, газеты «Літаратура і мастацтва», «Культура», «Наша слова». Як гэта яна робіць? Пакладзе гэтыя выданні на віднае месца, а не запхае сярод розных «лёгкіх» выданняў. А як хто даўжэй затрымаецца ля акенца кіёска, то стараецца пагутарыць з чалавекам, параіць нешта, на яе погляд, больш важнае. Бо часам пакупнік у разгубленасці — столькі ўсялякай друкаванай прадукцыі на вочы трапляе. Дык вось, калі трэба нам дарадца, калі хочацца і за шкляной вітрынай кіёска ўбачыць, пачуць уважлівага да роднага слова чалавека, то наведайцеся на вуліцу Пятра Глебкі, што ў беларускай сталіцы. Там — кіёск Марыі Ігнатаўны.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

На здымку: шчырая прапагандыстка роднага слова гаспадыня кіёска «Саюздруку» Марыя Ігнатаўна Танковіч.

Фота Міхася ХАМЦА.



Алёна Куль вучыцца ў шостым класе Падкраіцкай дзевяцігодкі, што ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Сярод сяброў-аднакласнікаў дзяўчынка вылучаецца стараннасцю ў вучобе. Па беларускай мове і літаратуры ў Алёны толькі выдатныя адзнакі.

Мінулай восенню Алёна падабрала падбітага бусла. За зіму яны пасябравалі, і цяпер дзяўчынка і бусел разам радуюцца вясне (на здымку).

Фота Міхася ЖАМЦА.

## Ці варта слухаць іншадумцаў

Стар. 2

## «ВЯРНУЦЦА ДА ЖЫВАТВОРНЫХ НАРОДНЫХ КРЫНІЦ»

Стар. 2—3

### ДА ЎВАГІ СЯБРОЎ ТБМ!

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пры садзеянні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны праводзіць рэспубліканскую канферэнцыю «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь».

Канферэнцыя мае адбыцца 15 мая г. г. у Доме літаратара (г. Менск, вул. Фрунзе, д. 5). Пачатак у 10 гадзін 30 хвілін.

З 9 гадзін 30 хвілін (пры неабходнасці і ў час перапынкаў) плануецца пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ з павесткай дня:

1. Справаздача аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці Рэспубліканскай Рады ТБМ за 1991 год і за І квартал 1992 г.
2. Аб выдавецкай дзейнасці Таварыства.
3. Рознае.

Просім накіраваць прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацый ТБМ імя Ф. Скарыны ў Менск (заезд 14 мая ўвечары) для ўдзелу ў канферэнцыі.

# З рэдакцыйнай пошты



## Ці варта слухаць іншадумцаў

Цікаўлюся «Нашым словам» з сакавіка 1990 года. Ваша газета выхавала ў мяне аддананга абаронцу роднага слова. Аде не разумею, навошта змяшчаць у газеце матэрыялы, падобныя допісу Ул. Слабіна «Ёсць мера ў рэчах». Чаму ён змешчаны ў цэнтры старонкі, зразумела — дастаткова паглядзець на першы сказ трэцяга абзаца. Тэма матэрыялу зразумелая таксама — аблаяць адраджэнцаў роднага слова, якія падтрымліваюць «тарашкевіцу». А як эмацыянальна, гэтак у літаратурным стылі апісаны збор подпісаў паважаным спадаром у падтрымку рэферэндуму, як яму балюча было глядзець, як людзі са здзіўленнем чытаюць зварот і якія твары ў іх пры гэтым робяцца. Хлусня! Амаль усе простыя людзі, рабацягі, наогул не адрозніваюць напісанае «тарашкевіцай» ад «наркамаўкі». У адну такую сям'ю, дзе ў хаце гавораць па-беларуску, а на людзях па-расійску, я нядаўна завітаў. Калі іх папрасіў у анкеце па беларускаму правапісу (надрукаванай у «Нашым слове») адзначыць, як правільна пісаць, то яны выбралі словы, якія супадалі з «тарашкевіцай» ці былі бліжэй да яе...

1) Раю, каб павялічыць наклад «Нашага слова», не змяшчаць у газеце матэрыялаў, падобных на допіс Ул. Слабіна; 2) больш рэкламаваць газету, бо яе мала хто ведае. Напрыклад, у кожнай паліклініцы сядзяць сотні людзей, чакаюць сваёй чаргі і ад нечага рабіць глядзяць на сцяну. Дастаткова тут падкласці газету, каб яе прачыталі. Некаму яна абавязкова прыйдзецца да спадобы; 3) раскласці хаця б адзін нумар па паштовых скрынках па ўсёй Беларусі. І вы знойдзеце шмат новых сяброў.

Поспехаў!

**Вацлаў СМАГА.**
**г. Маладзечна.**

***АД РЭДАКЦЫІ:** Шаноўны спадар Вацлаў, шчыры дзякуй за падтрымку газеты і добрыя пажаданні. Аднак з дзвюма Вашымі заўвагамі вельмі цяжка пагадзіцца. Па-першае, відаць, не варта адшукваць карыслівы намер рэдактара ў тым, што допіс Ул. Слабіна змешчаны ў цэнтры старонкі. Бо можна ж лічыць па-іншаму. Гэты артыкул пастаўлены другім па ліку. А першым ідзе ліст нашага сябра з Каліфорніі (ЗША) Юркі Станкевіча, які заклікае якраз паскорыць рэформу правапісу і вярнуцца да «тарашкевіцы», хоць аўтар і бачыць яе пэўную «недасканаласць».*

*І па-другое, вельмі б хацелася (і газета неаднойчы заклікала да гэтага), каб мы ў сваіх спрэчках ніякім чынам не абражалі нязгоднага з нашай думкай ці поглядамі, параджаючы варажнечу, якой і так поўна, ды яшчэ і перашкаджалі яму выказацца. Ісціна якраз і нараджаецца ў сутыкненні розных думак.*

## Каб не прапасці ў адзіноце

Шаноўная рэдакцыя, прачытала ў № 15 Вашай газеты ліст Уладзіміра Шапашнікава з Ганцавічаў. Шчыра кажучы, спужалася за чалавека. Дапамажыце звязацца з ім. Паспрабую хоць нечым дапамагчы Уладзіміру.

**Галіна ЦЯЛІПКА.**
**г. Барысаў.**

## Можа, хто ачуняе

Я вам пісаў ужо, як у нашым мястэчку ставяцца да беларускай культуры. Тым не менш, пакуль я не знайшоў сяброў, каб пабудаваць беларускую суполку, вырашыў дарэмна не марнаваць часу. Для пачатку паклаў у паштовыя скрынкі некаторых жыхароў нумары «Нашага слова». Думаю, кожны знойдзе для сябе нешта цікавае, каб прачытаць. І, вядома, эпіграф са словамі Ф. Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Веру, хто-небудзь усё ж ачуняе нарэшце ад наркатычнага ап'янення бязроднасцю, навязанага былой кампартыйнай сістэмай. І для пачатку пойдзе на пошту выпісваць «Наша слова».

**Уладзімір ШАПАШНІКАЎ.**
**пас. Ганцавічы.**

***АД РЭДАКЦЫІ:** Мы не сумняваліся, што аднадумцы Уладзіміра адгукнуцца. Вельмі рады, што і сам ён не апусціў рукі. Паведамляем яго адрас: 222136, Менская вобл., Барысаўскі раён, пас. Ганцавічы, Шапашнікаў Ул. М.*

## АДГУКНІЦЕСЯ, СЯБРЫ!

Звяртаецца да вас Мікалай Дубінін. Мне 19 гадоў. Я не жыву ў Беларусі і ніколі не жыў. Але мая мама — беларуска, мы маем родных у Беларусі. І я лічу сябе беларусам, а Беларусь — сваёй Радзімай, і вельмі гэтым ганаруся. Я вывучаю родную мову, выпісваю часопісы на беларускай мове і «Наша слова». Газета ваша мне вельмі падабаецца, хаця і прыходзіць з вялікім спазненнем.

Але мне не хапае сувязей з прадстаўнікамі сваёй нацыянальнасці. Тым больш, што мая Радзіма становіцца незалежнай і самастойнай, а я знаходжуся далёка за яе межамі і наўрад ці змагу цяпер часта ездзіць у Беларусь.

Мне горка і балюча бачыць, што «расійскія беларусы» саромеюцца сваёй нацыянальнасці, забываюць або нават не ведаюць сваёй мовы, культуры, звычаяў, не знаёмяць з імі сваіх дзяцей. Я не хачу, я не маю права быць у іх ліку!

Тут няма якога-небудзь беларускага таварыства. Таму прашу ў вас дапамогі. Я спадзяюся, што вы дапаможаце мне знайсці сяброў у Беларусі, якія таксама, як і я, любілі б сваю Радзіму і свой народ, ганарыліся б тым, што яны — сыны або дочкі Беларусі. І таксама верылі ў тое, што для сапраўднага сяброўства няма аніякіх межаў.

Вельмі чакаю лістоў! Адгукніцеся, сябры-беларусы!

Мой адрас: 346900, Расія, г. Новашахцінск, Растоўская вобл., вул. Харкаўская, д. 92, кв. 15. Дубініну Мікалаю Генадзьевічу.

(346900, Россия, г. Новошахтинск, Ростовская обл., ул. Харьковская, д. 92, кв. 15, Дубинину Николаю Геннадьевичу).

## Газетай цікавяцца ўкраінскія сябры

«Наша слова» і «Свобода» ў апошні час сталі на адну прыступку з «ЛіМам». У гэтым асабіста для мяне няма ніякага сумнення!

Такі ж водгук я чуў ад сваіх знаёмых украінцаў. А «Наша слова» я збіраю з дня выхаду, і зусім не хочацца, каб у падшыўцы якога нумара не хапала, бо ў кожным знаходзіш нешта адметнае.

Зычу поспехаў рэдакцыйнаму калектыву!

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

## У камісіі па

**З часу правядзення II з'езда ТБМ камісія правяла 12 пасяджэнняў, на якіх падрыхтавала анкету па правапісе беларускай мовы (апублікавана ў 5-м нумары «Нашага слова» за гэты год) і абмеркавала шэраг праблем беларускай арфаграфіі. Найбольш часу было аддадзена падрыхтоўцы праектаў правілаў, якія маюць дачыненне да наступных моўных з'яў:**

**1. Асімілятыўнае змякчэнне зычных гукаў (*смех — сьмех, гарэзлівы — гарэзьлівы, у сне — у сьне, цвік — цьвік, з зямлі — зь зямлі* і інш.) разглядалася на 5 пасяджэннях, абмеркаванне амаль завершана.**

**2. Сцяжэнне зычных гукаў і асіміляцыя (*чэшскі — чэскі, таджыкскі — таджыцкі, імчышся — імчыссся — імчысься* і інш.): *4 пасяджэнні, абмеркаванне працягваецца.***

**3. Аканне і яканне (*мовазнаўства — мавазнаўства, горналыжнік — гарналыжнік, без бульбы — бяз бульбы, не возьмеш — ня возьмеш* і інш.): 4 пасяджэнні, абмеркаванне працягваецца.**

**4. Асіміляцыя па шыпячасці (*перапісчык — перапішчык, дакладчык — даклаччык, лётчык — лёччык* і інш.): 3 пасяджэнні, абмеркаванне працягваецца.**

**На дадзеным этапе дзейнасці камісія вызначае заканамернасці правапісу спрадвечнай уласнай лексікі.**

**У адным з наступных нумароў «Нашага слова» будзе апублікавана справаздача з пасяджэнняў.**

**Ніжэй друкуем урыўкі з лістоў, атрыманых камісіяй пасля публікацыі анкеты.**

## *РАДКІ З ЛІСТОЎ* «ВЯРНУЦЦА

Трэба пачынаць прывучаць дзяцей з першага класа пісаць поруч з кірыліцай лацінскімі літарамі. Чаму? Таму, што наша мова доўгія вякі забаранялася і прыніжалася. Прыніжаецца яна і цяпер... А каб пазбегнуць прыніжэння нашай мовы з боку «вялікай і магучай» расійскай, трэба не збліжацца з ёю на ўзаконенай бальшавікамі трасянцы, а адарвацца ад яе.

**Іван ПАТАПЕЙКА.**
**г. Бабруйск.**

◆

Цяперашні правапіс — гэта звычайная калька з расійскай мовы. Непадрыхтаваны чалавек як чытае, так і гаворыць: *сьмецьце* ў яго — *смецце, зьесьці — з'есці, зьява — з'ява.* Паслухайце, якое вымаўленне ў журналістаў тэлебачання — гэта ж недарэчна. А паслухайце «Песняроў». Дайнека пяе калыханку: «спіць над лесам аблачынка...», а трэба ж «сьпіць». І па гэткіх песнях нашыя дзеткі мове роднай вучацца!

З такім правапісам мы накрысе загубім сваю мову. Таму вяртанне дарэформеннага правапісу — гэта пытанне такое ж, як ці быць сцягу бел-чырвона-беламу, ці — зялёнаму.

Трэба вяртаць былы правапіс, і неадкладна. Мы разумеем, як вам, шаноўная камісія, цяжка гэта зрабіць. Многія з вас абаранілі дысертацыі па наркамаўцы і, пэўна, надта зацята тлумачылі ў іх перавагу «наркамаўкі» над «тарашкевіцай» (маўляў, мова развіваецца, узбагачаецца). Але ж трэба быць вышэй...

Недахопы ёсць і ў «тарашкевіцы». Таму мы прапануем найсці далей — перайсці на лацінку. Лацінскі алфавіт больш адпавядае беларускаму маўленню. Калі ж размовы аб лацінцы — усяго толькі нашыя мары, дык прапануем увесці асобныя лацінскія літары, якія б замянялі падвойныя літары, выбухное *г (ганак, гузік, гвалт, грунт* і інш.).

**Ігар КАРПЕНКА,**
**Генадзь МАКАРЭВІЧ.**
г. Гомель.

◆

...Калі мы сапраўды хочам, каб наша мова адрадзілася, то трэба абапірацца толькі на сучасны правапіс.

Калі мы пачнём мяняць правапіс ці, барані Божа,

**«Падараваўшы» нашым нашчадкам Чарнобыль, мы ўсе найперш у даўгу перад немаўлятамі, дзетварой, тымі, каго найбольш цяжка ён карае.**

У 1986 годзе паэт Ніл Гілевіч напісаў:

О дзеці, дзеці! Дзе мне вочы дзець,
Каб вам у вашы вочы не глядзець?

Таму, відаць, у першую чаргу гаворка на прэс-канферэнцыі па аздараўленні насельніцтва, якую праводзіў Дзяржкамчарнобыль Рэспублікі Беларусь, і ішла ў дачыненні да дзіцячых праблем.

## ХТО Ж

### *Нататкі з прэс-*

Жахлівыя прыклады «практыцызму» і несумленнасці дарослых прывёў старшыня Дзяржкамчарнобыля, намеснік Старшыні Саўміна рэспублікі І. Кенік. Так, дзеці з Гомельшчыны «адпачывалі» ў Польшчы, але які гэта быў адпачынак, калі яны там галадалі, бо іх «выхавацелі» ў гэты час сноўдаліся ў нецвярозым стане па вуліцах і кірмашах, робячы свой

# Вучымся!

## Кароткі слоўнік эканомікі

**АЎКЦЫЁН,-НУ** (м. роду). Паходжанне слова лацінскае. Азначала продаж тавару на публічных таргах. Цяпер у нас набывае распаўсюджанне. Тавар у выніку дастаецца таму, хто называе самую высокую цану. Адрозніваюць А. прымусовыя, якія праводзяцца судовымі органамі з мэтаю спагнання доўгу з неплацельшчыка, і А. добраахвотныя, якія арганізуюцца па ініцыятыве ўладальнікаў тавару. Для правядзення А. ствараюцца спецыяльныя фірмы, якія працуюць на камісійных пачатках. Традыцыйнай формай міжнароднага гандлю з'яўляецца А. міжнародны. Працэдура апошняга мае чатыры стадыі: падрыхтоўка, агляд тавару, допуск камісіяй тавару на торг і, нарэшце, сам торг, які заканчваецца афармленнем пісьмовага пагаднення (здзелкай) і дастаўкай тавару пакупніку.

Распрацаваны правілы, згодна з якімі тавар пастаўляецца на А., там прадаецца, а затым адбываецца афармленне кантракта і атрыманне купленага тавару. Звычайна такія правілы падрабязна апісваюцца ў спецыяльных інфармацыйных матэрыялах, з якімі і трэба папярэдне азнаёміцца.

## Называйце па-беларуску

### ДЗЬМУХАВЕЦ

Прыйшоў травень. Ласкавыя сонечныя промні змянілі земляныя колеры. І ўсюды побач з зялёнымі іголкамі маладой травы выцягнуліся ва ўсе бакі ад сярэдзіннага кораня цёмна-зялёныя лісты. Яны па краях нібы парэзаныя, з зубчыкамі. А пасярэдзіне, як заплюшчанае вока, затаіўся да часу пупішак. Там-сям Ляля ўжо разбудзіла дзьмухаўцова вочка, ды пройдзе некалькі дзён, і па ўсёй нашай зямлі заззяюць мільёны маленькіх сонцаў. Жоўтыя кветкі дзьмухаўцоў месцамі дзе-нідзе ўсцелюць зямлю суцэльным дыванам. І прывабяць яны да сябе ўсё жывое. Пчолы, чмялі, матылі, жучкі ды іншыя кузуркі будуць ласавацца нектарам і збіраць пылок, а дзеці будуць плесці вянкі. І амаль адначасова побач з кветкамі распушацца валаскі насення, якія ў непагадзь складваюцца, нібы парасон. (Дарослыя, загадайце дзецям загадку: «Рос белы шар, падзьмуў вецер — і шар паляцеў»).

Відаць, ад слова *дзьмухаць* і пайшла назва гэтай лекавай расліны — *дзьмухавец*. У некаторых месцах Беларусі яна, апроч таго, мае іншыя назвы: *малачай* (Брэстчына), *багатка* (Віцебшчына), *коцікі*, *папок* (Гомельшчына), *дмухавец*, *дмухель* (Гродзеншчына). Навуковая назва дзьмухаўца — *тараксакум* (ад грэчаскага слова «тарассейн» — супакойваць) *афіцыналe* (з лацінскай — лекавы).

### ВЯРБА

На Беларусі расце 19 відаў лозаў шматлікага (у свеце іх каля 600) вярбовага племя, якое вучоныя называюць — род *салікс*. Назва гэтая паходзіць ад кельцкіх слоў «саль» — блізка ды «ліс» — вада. А беларускае слова *вярба*, як лічаць мовазнаўцы, утворана ад індаеўрапейскага кораня — *-уэрб-*, які меў значэнне «віць».

Першай, яшчэ ў красавіку, зацвітае *вярба-брэднік* (яе яшчэ называюць *вярба казіная*) — невысокае дрэўца, абсыпанае ў тую пару жоўтымі «коцікамі», чым і вылучаецца сярод голых дрэў і хмызнякоў.

*Вярба белая*, якую ў нас называюць проста *вярбой*,— высокае дрэва з белаватай ці малочна-зеленаватай карой маладых галінак. Менавіта іх ломяць, каб на Вербніцу асвяціць у бажніцы.

Іншыя вербы — пераважна невысокія хмызнякі. Беларусы далі ім агульную назву — *лаза*.

## ДЗЕКАННЕ І ЦЕКАННЕ

— *Дзеўка-дзявіца, руса касіца, пасцялі пасцель.*

— *А мой панок, а мой мядзвядзёк, з чаго я табе пасцялю?*

Гэтыя радкі з казкі «Дзедава дачка і бабіна дачка ў хатцы на курынай ножцы» даюць прыклад яшчэ дзвюх асаблівасцей беларускай мовы — дзекання і цекання. Дарэчы, суседнім народам, прыкладам, палякам, таксама ўласціва падобнае вымаўленне мяккіх *д* і *ц*. На падабенства беларускага і польскага дзекання і цекання яшчэ ў XVII стагоддзі звярнуў увагу харвацкі мовазнаўца Ю. Крыжаніч. Але ён убачыў і выразнае адрозненне ў вымаўленні гэтых гукаў беларусамі і палякамі. Польскія *заповедзь, мілосьць* ён перадаў як *заповеджь, мілосчь*, а пра беларусаў напісаў, што яны замест *ходіт, ваdіт* вымаўляюць *ходзіць, вадзіць*.

Расійскі акадэмік А. А. Шахматаў лічыў: «...заходняя галіна сярэднярускіх гаворак (родапачынальніца беларускай мовы) у вельмі аддаленую эпоху, знаходзячыся ў блізкім суседстве з польскімі гаворкамі, перажыла разам з імі некалькі агульных з'яў — дзеканне і страту мяккасці *р*».

Наш вядомы лінгвіст Яўхім Карскі быў перакананы, што гэтыя характэрныя рысы беларускай мовы развіліся самастойна, а не пад чыімсьці ўплывам. І ён абгрунтаваў сваё меркаванне. Перш-наперш, беларускія мяккія [дз'] і [ц'] не маюць (пры вымаўленні) нават адцення шыпячага гуку. Па-другое, дзеканне і цеканне ўласцівыя не ўсім беларускім гаворкам. Прыкладам, паўднёва-ўсходнія і часткова ўсходнія дыялекты не ведаюць гэтай з'явы. А там жа якраз тэрыторыя таго племя, якое, паводле летапісу, пайшло «ад ляхаў». Чаму ж радзімічы не «перажылі разам» змякчэння гукаў [д] і [ц]? Суседзямі польскіх плямёнаў былі таксама і ўкраінскія плямёны, што насялялі Галіцкую зямлю. Але і ў тых няма дзекання і цекання, як, зрэшты, і ў чэхаў ды славакаў. Усё гэта дало Я. Карскаму падставу сцвярджаць: «З'ява дзекання і цекання развілася на беларускай глебе самастойна, не пазней XIV стагоддзя. Суседства польскай мовы, у якой ёсць падобная, але не цалкам супадаючая з беларускай з'ява, толькі падтрымлівала яго».

*(Заканчэнне будзе).*

---

Павел СЦЯЦКО

*Даведнік па чым? ці Даведнік па чаму?*

# ТРЫМАЦЦА РОДНЫХ КАРАНЁЎ

(Заканчэнне. Пачатак у № 18)

Карыстаючыся канструкцыямі з прыназоўнікам ПА, трэба памятаць, што яны больш уласцівыя кніжнай мове і нярэдка штучныя для беларускай мовы. Гэта ў расійскай мове такія канструкцыі шырока выкарыстоўваюцца. Але і там некаторыя даследчыкі бачаць пэўную штучнасць іх і раяць выкарыстоўваць у адпаведных тэкстах словазлучэнні з іншымі прыназоўнікамі. Напрыклад, у кнізе: Л. К. Граудина, В. А. Ицкович, Л. П. Кетлинская. «Грамматическая правильность русской речи: Опыт частотно - стилистического словаря вариантов» (М., «Наука», 1976) — у параграфе «Варианты конструкций с предлогом ПО» (с. 43) чытаем: «Нежелательными следует считать построения, в которых предлог ПО выступает вместо других предлогов, более конкретных по значению: комбайн по уборке свёклы (вместо: комбайн для уборки свёклы), получить приз по стрельбе (вместо: получить приз за стрельбу), так как предлог ПО в таких построениях указывает лишь на наличие отношений, никак их не характеризуя».

У беларускай мове канструкцыі з прыназоўнікам ПА значна больш абмежаваныя, яны ў апрацаваных тэкстах саступаюць сваё месца словазлучэнням з іншымі прыназоўнікамі ці беспрыназоўнікавым канструкцыям: *выбраць лыжы пад свой рост, густ* (расійскае — по росту, вкусу), *тэкст паводле Прышвіна* (по Пришвину), *адрозніваецца зместам* (по содержанию), *адзнака за дыктант* (по диктанту), *з усяго відаць* (по всему видно), *адрозніваецца сваім выглядам* (по своему виду).

Калі і выкарыстоўваць словазлучэнні з прыназоўнікам ПА, то трэба памятаць, што залежныя словы ў такіх канструкцыях стаяць у форме меснага склону не толькі ў множным, але і ў адзіночным ліку. Вызначыць яго дапамагае склонавае пытанне *па чым*. Аднак, блытаючы заканамернасці беларускай і расійскай моў, характэрнае для беларускай мовы пытанне *па чым* замяняецца (асабліва ў маўленні тых, у каго «рабочаю моваю» выступае не беларуская, а расійская) пытаннем *па чаму*. Так узнікаюць ненарматыўныя канструкцыі накшталт «званіць па тэлефону», «розныя па значэнню», дзе залежныя словы маюць канчаткі не меснага, а давальнага склону.

Пра такую вось неўнармаванасць пры выкарыстанні словазлучэнняў з прыназоўнікам ПА сведчыць выдадзеная ў 1991 г. выдавецтвам «Вышэйшая школа» кніга: Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах: Слоўнік-даведнік». Рукапіс здаваўся ў набор 1 жніўня 1990 г. (надпісаны да друку 6 сакавіка 1991 г.), калі на Беларусі панавала манаполія камуністычнае ідэалогіі і ўсім кіравала КПБ—КПСС. Але і тады ўжо прабіваліся з-пад гэтага панцыру парасткі незасохлай яшчэ роднае моўнае стыхіі.

Прыемна бачыць у даведніку значную перавагу канструкцый з прыназоўнікам ПА, якія адказваюць на пытанне *па чым*. Гэта: «брынчаць, брынкаць *чым па чым*, вадзіць *па чым*, галасіць *па кім*, гараваць *па кім*, журыцца *па кім*, заўвага *па чым*, ісці *па чым*, канферэнцыя *па чым*, малаціць *па чым*, маркоціцца *па кім-чым*, меркаваць *па кім-чым*» ды іншыя.

І штучнае пытанне ПА ЧАМУ таксама знайшло сваё месца ў даведніку, праўда, яно нідзе не выкарыстоўваецца як адзіна магчымае, а толькі побач з іншымі і толькі пасля пытання *па чым*. Вось некаторыя выпадкі: «адзнака *за што*, *па чым* і ПА ЧАМУ (адзнака па дыктанту добрая); адрозніваецца *чым, па чым* і ПА ЧАМУ (адрозніваецца па хімічнаму саставу); арыгінальны *па чым* і ПА ЧАМУ, У ЧЫМ (касцюм арыгінальны па пакрою), ацэнка *за што*, ПА ЧЫМ і ПА ЧАМУ (ацэнка па дыктанту)».

Наогул, у даведніку 53 канструкцыі з прыназоўнікам ПА, якія павінны мець толькі формы меснага склону (адказваюць на пытанне ПА ЧЫМ). Канструкцыі з паралельнымі пытаннямі *па чым* і ПА ЧАМУ займаюць значна меншае месца — іх усяго 13 (і — ніводнага, дзе б было толькі пытанне давальнага склону). Але і ў гэтых канструкцыях адразу відаць штучнасць пытання *па чаму*. І ілюстрацыямі выступаюць тут нярэдка тыя самыя прыклады, што і ў расійскай частцы даведніка. Напрыклад, пры рэестравым слове *даведнік* бачым: «Даведнік па мадэліраванню дзіцячага адзення».— «Справочник по моделированию детской одежды». Па-беларуску было б: *Даведнік па мадэляванні дзіцячага адзення*. І наогул, нельга зразумець з даведніка, чаму тыя самыя паводле словаўтваральнай структуры словы ў адных выпадках кіруюць залежнымі словамі толькі меснага склону, а ў другіх — і меснага і давальнага. І ці такое можа быць наогул? Бо калі аддзеяслоўныя назоўнікі (як можна меркаваць з матэрыялаў даведніка) «заўвага, памочнік, нарада, памяць, пастанова, спаборніцтва, спецыялізацыя, удар» кіруюць толькі месным склонам, то на якой падставе словы таго ж паходжання (утварэння) «ацэнка, адзнака, даведнік, загад, інструктаж, інсцэніроўка, меры» ўжо здатныя кіраваць двума склонамі? Або чаму прыметнікі «незвычайны, раўнацэнны, роўны» здольныя кіраваць толькі формамі меснага склону, а іншыя, адэкватныя структураю, «арыгінальны, глыбокі» ўжо кіруюць і месным і давальным склонамі? Адказу тут мы не знойдзем. Відаць, аўтары кіраваліся пры складанні даведніка толькі канчаткамі залежных слоў у адпаведных прыкладах. Але ж у мове друкаваных выданняў якраз і няма пэўнага парадку, бо, не ведаючы нормаў беларускае мовы, карыстаючыся расійскаю моваю, аўтары такіх «беларускіх» тэкстаў афармляюць словаформы паводле расійскага ўзору. Пра гэту неўпарадкаванасць сведчаць і тыя прыклады — памылковыя — пры пытанні меснага склону *па чым*, што бачым у даведніку. Напрыклад: «Несупадзенне *чаго, чаго ў чым, па чым...*», «Несупадзенне па гукавому складу некаторых прыназоўнікаў у рускай і беларускай мовах...» (с. 151). Або: «Партнёр *па чым* (не ў чым). Партнёр па ваеннаму блоку» (с. 180); «Памяць *па кім*. Нават памяці не засталося па дарасламу Алесю (с. 177); «Пастанова *па чым, аб чым*. Гарадскі савет народных дэпутатаў прыняў пастанову па важнаму пытанню» (с. 184—185). Тут і ў іншых прыкладах само дапасаванае слова паказвае на давальны, а не месны склон.

Нямала ў даведніку і прыкладаў, дзе замест канчаткаў меснага склону (пры пытанні *па чым)* падаюцца формы давальнага склону (падобна, як у расійскай мове): «Зраўняцца *па чым*. Даўно зраўняўся з «Новым светам» і па ўраджаю і па працадню» (с. 103); «Нарада *па чым*. Нарада па «В'етнаму» (с. 142); «Пазнаць *па чым*. І па голасу пазнае» (с. 171); «Рэкорд *па чым*. Рэкорд па кіданню молата» (с. 221); «Спаборніцтва *па чым*. Спаборніцтва па штурханню ядра» (с. 229); «Суадносіцца *па чым*. Суадносіцца па ўтварэнню» (с. 234). А вось разгорнутая канструкцыя, дзе беларускае «ПА плюс месны склон» і расійскае «ПА плюс давальны склон» збегліся разам: «Што засумаваў па бацьках, па дому, а, можа, проста не выспаўся?» А поруч — нарматыўная канструкцыя: *Бацьку абрыдлі дратва, шыла і малаток, яго рукі засумавалі па плузе і касе, а сэрца рвалася на лясное прыволле* (с. 95).

Як вынікае з матэрыялаў даведніка «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах», у канструкцыях з прыназоўнікам ПА ўжо перамагаюць заканамерныя для беларускай мовы формы меснага склону.

Моўная практыка сённяшняга друку паказвае, што ў словазлучэннях з прыназоўнікам ПА ў дагледжаных, натуральных тэкстах выкарыстоўваюцца канчаткі меснага склону не толькі ў формах множнага ліку, але і адзіночнага. Накрыклад: *«Праграма па беларускай мове прадугледжвае засваенне вучнямі і студэнтамі ведаў, уменняў і навыкаў па фанетыцы, лексіцы, словаўтварэнні, марфалогіі, сінтаксісе, стылістыцы...»* (Іван Яшкін. «Мова дыялектная — мова родная!» — «Роднае слова». 1992, № 3, с. 3). І гэта зусім зразумела, бо канструкцыі ««ПА плюс формы давальнага склону» чужыя для беларускае мовы. А кульгавая канструкцыя, дзе формы множнага ліку маюць канчаткі меснага склону, а адзіночнага — давальнага, сведчыць пра кастрацыю мовы, калі з яе выдаляюцца свае і навязваюцца чужыя формы. Яна — вынік «масавай рускамоўнай экспансіі, нічым не апраўданае засмечванне мовы рускімі калькамі, паўкалькамі, заштампаванымі дзяжурнымі слоўкамі і словазлучэннямі. Ва ўмовах масавай рускамоўнай экспансіі неабходна паслядоўна і строга размяжоўваць беларускую і рускую мовы на ўсіх узроўнях складанай моўнай структуры...» («Роднае слова», 1992, № 3, с. 49).

# З «падпольнай» кнігі

*Алег БЕМБЕЛЬ*

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—18)*

**(32 гады, беларус, музыкант)**

...Ці можна зараз весці размову пра роднае слова, калі яго ўжо не існуе?.. Так, так,— не існуе болей у сапраўдным паняцці беларускае мовы. Хіба можна называць жывой мову, на якой ніхто не мовіць? Больш за тое: якую не любіць нават шмат хто з беларусаў? «Беларускій ізык пара ужэ давно атменіць. Да зачем он нужен этот біларускій ізык?» — колькі чуў я такіх слоў ці да іх падобных!.. Вядома, можна запярэчыць, што выдаецца шмат часопісаў і кніг па-беларуску, але зноў жа — што можна чуць у кнігарні або ля кіёска: «Мне пажалста кнішку, о нет, нет, — не эту, ана на беларускам». А колькі намаганняў прыкладаюць іншыя бацькі, каб вызваліць сваіх дзетак ад «беларускага езыка» ў школе!.. Горка гэта ўсведамляць, але гарчэй стане, як памысліш аб нашай будучыні. Без жаднага паняверу можна сцвярджаць, што без нацыянальнае мовы мы тае будучыні не маем. І мабыць наспеў ужо час вызначыць: ці ісці далей пад сцягам нігілізму, ці мо адумацца?

Вось сяджу зараз і згадваю, як колькі разоў, едучы па Беларусі, глядзіш, як за шклом мінаюць родныя краявіды: беларускія вёсачкі, шляхі і палі. Глядзіш, як яны прыгожыя і ў сонечны дзень улетку, і ў імжысты восеньскі. І міжволі стаешся ахоплены невыказаным пачуццём Радзімы. Але куды знікае тое пачуццё — варта толькі выйсці з аўтобуса?.. Кветка аказваецца папяровай. Прыгожа, але без водару. Не ведаю як каму, а мне аніяк немагчыма знітаваць Беларусь з рускай мовай, дакладней — з адсутнасцю беларускае. Беларусь, беларускае — пусты гук без беларускае мовы. Праз доўгі час я не мог зразумець, чым так розніцца побыт у вёсцы і ў горадзе. Ці тым толькі, што то вёска, а то горад?.. Але ж не толькі ў гэтым справа. Мова, тое самае «матчына слова» рабілі вёску там нейкім іншым, непаўторным светам, які, на вялікі жаль, знікае таксама, і знікае, напэўна, непаўторна. Дый на самай справе, паспрабуйце ўявіць сабе нешырокі вясковы шлях, разлеглыя паабапал ліпы за плотам, хаты з высокімі стрэхамі, бусла, што стаіць на адной назе на даху суседскае хаціны ў мяккачырвоным святле — зніжэлага да чорных на фоне барвовага неба вершалін дрэў — сонца,— у перакладзе на якую іншую мову. Згубіцца штось неадчувальнае, тонкае — але такі згубіцца. І як бы не згубіць нам і ўсяго астатняга...

**(Каля 30 гадоў, беларус, мастацтвазнавец)**

...Самае небяспечнае — праблема школы. Па сутнасці, у школе і прадшколлі закладваюцца прынцыпова адмоўныя адносіны да мовы. Там фарміруецца пэўны маральна-этычны комплекс адносін да мовы: «Гэта — добра, гэта — дрэнна»,— сістэма ацэнак, за якую ён не можа выйсці да канца жыцця. Фарміруецца комплекс непаўнацэннасці, другараднасці чалавека, які гаворыць на мове. Адсутнасць роднай моўнай стыхіі прыводзіць да тармажэння ў развіцці стыхіі духоўнай, магутна ўплывае на псіхіку. Бязвер'е ва ўласныя сілы — калі спраецыраваць на асобу. Бязвер'е ў сілы свайго народа, сваёй нацыі, сваёй культуры.

Праклён гэты настолькі глыбока западае ў душу, што сапраўды цяжка выкарабкацца, пазбавіцца ў сэрцы сваім такога падыходу. Калі чалавек высокаадукаваны, інтэлектуальна развіты — і то так!.. А калі ўзяць сярэдні і ніжэйшы ўзровень — тым больш не гуманітарны (няхай сабе і інтэлігента),— то практычна неверагодна цяжка пазбавіцца гэтага комплексу, гэтых шор, якія былі навязаны ў такім стане, калі чалавек не можа нават разважаць...

І асяроддзе, традыцыя адыгрываюць вялікую ролю. Адмоўныя адносіны да мовы ад гэтага: «Не будзем браць гэтую кніжку — яна на беларускай мове... гэта — кепска, гэта — бяка...»

І асяроддзе, традыцыя адыгрываюць вялікую ролю. Адмоўныя адносіны да мовы ад гэтага: «Не будзем браць гэтую кніжку — яна на беларускай мове... гэта — кепска, гэта — бяка...»

Калі даваць ацэнку ў сацыяльна-псіхалагічным аспекце адмоўных адносін да мовы, то трэба заўсёды памятаць пра людзей, якія вельмі многа здзекаў цярпелі — з-за няведання рускай мовы. Гэта звязана з такімі маральнымі пакутамі, што чалавек пачынае ненавідзець сваю родную мову...

Учарашнія сяляне — сярод іх часта самая лютая нянавісць да мовы. Бо яны на ўласным вопыце ўсё гэта перанеслі. Яны не аналізуюць прычыну і вынік і ненавідзяць тое, што пад носам — мову!..

Інтэлігенты першага пакалення, ці калі кампактным пластом жывуць — там да мовы прыхільныя. А вось у асяроддзі псеўдаінтэлігенцкім, асабліва шматнацыянальным, жорстка «караюць» нават цвёрдае «г» — запісваючы ў склад інтэлектуальна непаўнацэнных асоб. У нас, у культурна-нацыянальнай сферы, дамінуе мяшчанская іерархія каштоўнасцей. «Гарадскі» ты чалавек — або «дзеравенскі». Калі ты «вясковы» — ты атрымліваеш кляймо непаўнацэннасці, другараднасці, другагатунковасці на ўсё жыццё. Калі замаскіравацца знешне, пазбавіцца вонкавых прыкмет вясковасці яшчэ можна, то пазбавіцца акцэнту беларускага чалавек ніколі не зможа. І пры іерархіі каштоўнасцей — ён заўсёды будзе чалавекам другога гатунку.

*(Працяг будзе).*



Вясенняя выстаўка арганізавана ў Менску Саюзам мастакоў Беларусі. На ёй прадстаўлена болей за дзвесце твораў жывапісу, графікі, скульптуры.
На здымку: у залах выстаўкі.
Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА (БелТА).

# Незабыўны Галубок

***15 мая спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Іосіфавіча Галубка (1882—1937), беларускага пісьменніка, рэжысёра, акцёра, тэатральнага дзеяча, мастака, першага народнага артыста Беларусі.***

***Нарадзіўся Уладзіслаў Галубок (сапраўднае прозвішча Голуб) на станцыі Лясная пад Баранавічамі ў сям'і рабочага-чыгуначніка. Калі сям'я будучага драматурга перабралася ў Менск, Уладзіслаў пайшоў вучыцца ў царкоўна-прыходскую школу. Яго бацька Іосіф Тамашавіч, сын удзельніка паўстання 1863 года, сам цягнуўся да асветы і імкнуўся даць сваім дзецям адукацыю.***

***Пасля трагічнай смерці бацькі на плечы Уладзіслава лёг увесь клопат пра немалую сям'ю. Напачатку яму давялося папрацаваць грузчыкам на дрывяным складзе пры чыгунцы, прыказчыкам у гастранамічным магазіне, а затым слесарам менскага лакаматыўнага дэпо. Увесь час Уладзіслаў займаецца самаадукацыяй, экстэрнам здае экзамены за поўны курс гарадскога вучылішча. Таленавіты хлопец авалодвае сакрэтамі жывапісу, вучыцца ігры на музычных інструментах, удзельнічае ў аматарскіх тэатральных спектаклях, друкуе вершы і апавяданні ў «Нашай ніве», «Маладой Беларусі», выдае зборнік «Апавяданні». Але найбольш яго захапляе тэатр.***

***З 1917 па 1920 год Уладзіслаў Галубок выступае як акцёр і рэжысёр у Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі, для якога піша п'есы «Пісаравы імяніны», «Апошняе спатканне», «Бязвінная кроў».***

***У жніўні 1920 года пачынае працу «Трупа Галубка», пазней — Трэці дзяржаўны драматычны тэатр, для якога Галубок напісаў каля сарака камедый і драм і зрабіў сам да іх дэкарацыі.***

***Уладзіслаў Галубок быў не толькі выдатны артыст, але і настаўнік, які даў беларускай культуры такія імёны, як У. Дзядзюшка, С. Бірыла, К. Быліч, Т. Шашалевіч.***

***Лёс Уладзіслава Галубка, як і многіх дзеячаў беларускай культуры трыццатых гадоў, трагічны. Жыццё першага народнага артыста Беларусі абарвалася ў поўным росквіце творчых сіл у 1937 годзе.***

*Уладзіслаў ГАЛУБОК*

## Будучыня

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды, сюды сную народ.
Будуюць новы дом.

Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Звініць сталёвы лом;
На месцы даўняй старыны
Будуюць новы дом.

Штодзень угору сцены йдуць,
Ушыр і ўдоўж кругом;
Баліць мазоль, і рвецца грудзь,
А ўсё ж будуюць дом!

Настане дзень, надойдзе час,
Мы крэпку столь звядзём,
І лепшай прышласцю для нас
Быць мусіць новы дом!

Працуйма, брацця! Хай хутчэй
Наш льецца пот цурком:
Прыжджэм і мы святлейшых дней,
Як скончым строіць дом!..

* * *

Хачу мець зямельку і мру без работы,
А чую, што сілы трываюць пакуль,
Я рад працаваць да крывавага поту
І жду ўсё — падмогі няма ніадкуль.
А людзі ў дастатках, дзе скарбаў ёсць многа,
Не дбаюць аб горы — ім бедны нішто...
І дзе галадоўля, дзе смутак, трывога,
Туды і скарынкі не кіне ніхто.
Глядзіце, зямелькі вось колькі пустуе!
Аблогам марнуецца колькі пасек!
А я даў бы рады, мне ж сіл не бракуе.
Без працы чы ж можа пражыць чалавек?

## Абразок

Даўно ўжо Наста Мазалёва збіралася купіць у кірмашовы дзень абразок святога Юр'я і нарэшце, як разжылася на грошы ды часу было, паважна паплялася к мястэчку. Кірмаш быў у самым руху. Як ні дабівалася Наста ў кнігароў абразка, хоць запалі — не было аніводнага; хацела ўжо ісці дадому, аж бачыць, яшчэ адзін кнігар застаўся ў старане і стаіць, выглядаючы купцоў, узяўшыся ў бокі.

Наста і валіць проста да яго.

— Чаго, рыбачка? — пытае кнігар.

— А вось шукаю абразка святога Юр'я, дужа хацелася б мець, ці няма ў вас пана?

— Ёсць, любудка,— і пачаў порканца ў шухлядах.

Але як убачыў, што гэтага няма, наважыў пакпіць з бабы і вось дастае малюнак з белым, як снег, канём і падае.

— Добры мой пане,— кажа Наста,— конь-то Юр'я я пазнаю, а дзе ж сам ён?

— Як дзе? — пытае нібы здзіўлены кнігар.— Бачыш лес?

— Бачу.

— Ну, дык ён у лес пайшоў.

— Не, не выпадае неяк без самога... Можа, у пана другі ёсць?

Ізноў пачаў рыцца кнігар і падае вядомага ўсім рыцара Баву Каралевіча на гнядым кані і кажа:

— Лепшага нямашака і не можа быць!

— Во, такі ёсць,— падумала Наста і, заплаціўшы грошы, з вясёлай мінай паплялася дадому. Але дзесьці ў дарозе, як разгледзела, што конь не белы, а гняды, варочаецца да кнігара і пытае:

— Чаму гэта, дзядзечка, конь не белы ў Юр'я, а гняды?

— Бо белы ўжо даўно здох, і ён цяпер на чужым ездзіць,— адказаў кнігар.



# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Вялікі ўплыў на развіццё традыцыйных усходніх формаў лірычнай паэзіі зрабіла арабская паэзія ранняга Сярэднявечча і пазнейшага перыяду, якая развівалася на тэрыторыі сённяшняй Іспаніі і Блізкага Усходу. Пэўнае ўздзеянне яе адчула на сабе і паэзія еўрапейскіх краін.

Узорам рэлігійна-панегірычнай лірыкі можа служыць змешчаны ніжэй верш арабскага паэта Ібн Аль-Джаабары (? — 1241), які паходзіў з тэрыторыі сённяшняй Сірыі. Верш «Цярплівасць» перакладзены з французскага даслоўніка.

*Ібн АЛЬ-ДЖААБАРЫ*

## ЦЯРПЛІВАСЦЬ

Яна майму сэрцу дарунак зрабіла —
Дала Справядлівасці зграбнасць і сілу,
Яна завалодала сэрцам маім —
Прынесла яму асалоду і ўздым,
Згадаць толькі варта душы аб Ягоных
Услаўленых вечна прыгожых імёнах.

Прынесены музыкай дзіўна-пяшчотнай
Гаворкі маёй незабыўнае, роднай —
Мяне вінаградзінкі сокам чароўным
Ушчэнт ап'янілі, а сок той Ягоным
Віном яшчэ зробіцца; так, дзень пры дні,
Мне бачыцца веліч Яго дабрыні,
Якая навек навучыла адданым
Быць сэрца маё — і заўжды ўсхваляваным.
Вось гэтак імкнецца ў душу маю ўліцца
Ўвесь час адчуванне Яго таямніцы.

Прад Ім я ў чаканні адно застываю —
Што спраўдзяцца словы Яго — і ўнікаю
Учынкаў, якіх не дазволіў бы Ён:
Мне воля Яго — найвышэйшы закон.

Я прагну ў пакутах Ягонай любові
І рады пакутам; маёй простай мове,
Звычайнаму шчыраму слову майму
Не хопіць глыбінь, каб аддзячыць Яму.

Хоць я і люблю Яго болей і болей,
За час, што прайшоў, аслабела міжволі
Цярплівасць мая — ды прыемней, дальбог,
Яна за той смутак, які Ён бы мог
Прынесці душы маёй — смутак расстання.

Ты, сэрца, цярплівасць здабудзь у змаганні
За вечную ласку Яго ды любоў.
І хто сэнс быцця свайго ў гэтым знайшоў,
Той спраўдзіць таемныя мроі-надзеі
І ўсё, пра што марыў заўсёды, займее.

**Пераклад Лявона Баршчэўскага.**

## *Проза*

*Вольфганг ЛАНГЕ*

# Дванаццаць вінаватых

*(Працяг. Пачатак у №№ 16—18).*

— Ведаеце, што гэта? — запытаў я.— Цяпер нашы ролі памяняліся. Я ледзьве не дадаў: «Вы ж крыміналіст, так?» Але стрымаўся і прыклаў брусок да ўмяціны ў рэйцы на адной палавіне дзвярэй.— Гэтай штукай ламалі гараж!

Обер-вахмістр Бесельман з усіх бакоў разглядаў металічны брусок.

— Гэта манціровачны ломік з інструментальнага набору матацыкла,— нарэшце прамовіў ён.— Гэтым ломікам знімаюць з вобадаў шыны.

Бесельман ведаў, што гаворыць. Прылада была мне знаёмая яшчэ з тых часоў, калі я працаваў у транспартнай паліцыі. Фаўльхубер рукой падазваў да сябе пані Клёйдэрэр. Яна са страхам пазірала на ломік, быццам кожнае імгненне ён мог разляцецца на кавалкі.

— Вы калі-небудзь бачылі гэтую рэч? — запытаў яе інспектар.

Жанчына адмоўна трасянула галавой.

Склаўшы ў трубку губы, інспектар засоп.

— Пашукайце, ці ёсць на гэтай манціроўцы і на варотах гаража адбіткі пальцаў,— загадаў ён мне.— Тым часам я займуся абодвума работнікамі. Гэта лепш зрабіць у памяшканні, калі, вядома, пані Клёйдэрэр нічога не мае супраць.

Жанчына ў рабочай робе кіўнула галавой.

Я зноў застаўся адзін. Дзякуй богу, што гараж стаяў у ценю — усё-такі не так горача, як ў цёмна-сінім «мерседэсе» на рынычнай плошчы.

Калі на царкоўнай вежы гадзіннік прабіў адзін раз, я сярдзіта кінуў назад у партфель пэндзлік, пульверызатар і фольгу для зняцця адбіткаў. Зноў нічога! На жалезным ломіку праявіліся толькі некалькі расплывістых ліній, а на дзвярах — з паўтузіна няясных плямачак — сведчанне таго, што зламысьнік працаваў у пальчатках.

Я быў галодны як воўк. Ідучы праз двор, я ўяўляў, як дарвуся да вэнджанай карэйкі, квашанай капусты і піва. Яшчэ на рынку мне трапіла на вочы шыльда заезнага дома. Можа, там знойдзецца што перакусіць. Не паспеў я падняцца на ганак, як з дома выйшлі Фаўльхубер і Бесельман. За імі, як цень, ішла пані Клёйдэрэр усё ў той жа стракатай хустцы на галаве.

— Ну, нам вядома ўжо, хто зрабіў злачынства? — запытаў я ў інспектара. Той выняў з рота недакурак цыгары і з найвялікшай меланхоліяй утаропіўся на мяне. Я зразумеў, што і ён пацярпеў няўдачу.

— Вы, можа, думаеце, што калі тут крадуць, дык чуваць на другім канцы мястэчка, дзе жывуць работнікі, з якімі я толькі што гаварыў?

— Не, але, магчыма, у іх ёсць падазрэнне на каго-небудзь. Часам на якога-небудзь валацугу.

— Хто-небудзь падобны на гароднае пудзіла з матацыклам, так? Здаецца, вы знайшлі манціроўку. Як з адбіткамі пальцаў?

— Пальчаткі,— панура адказаў я.

— Яшчэ лепш! Матацыкл і пальчаткі! Цяпер засталося толькі знайсці чалавека, які адпавядае гэтаму апісанню. Вы прадумалі ўжо, з чаго пачаць пошукі?

— З гасцініцы,— паспешліва адказаў я.— Гаспадары гасцініц лепш за каго іншага ведаюць, хто нетутэйшы прыехаў у горад.— Фаўльхубер зірнуў на свой гадзіннік і шпурнуў недакурак на клінкерны брук:

— Зрэшты, павінны ж мы з чаго-небудзь пачынаць. Чаму б сапраўды не з гасцініцы? — Ён павярнуўся да Бесельмана.— Ці можна там, прынамсі, знайсці што-небудзь паесці?

Нейкі момант обер-вахмістр маўчаў,— відаць, не адважваўся сказаць, што думаў. Нарэшце, запінаючыся, загаварыў:

— Якраз уранні я кажу сваёй жонцы: «Прыязджае пан інспектар і, натуральна, захоча паабедаць. Згатуй што-колечы адпаведнае — без добрага абеду злачынца не схопіш».

— Залатыя словы! — усклікнуў я і пачаў развітвацца з гаспадыняй: — Мы, пані Клёйдэрэр, яшчэ сустрэнемся. А вы пакуль што пазваніце ў рамонтную майстэрню, каб яны забралі з рынычнай плошчы машыну, і не забудзьцеся паведаміць свайму страхавому агенту.

Фаўльхубер таксама падаў ёй руку, тым часам гаворачы да Бесельмана:

— Не, на жаль, нічога не выйдзе,— лішні вам будзе клопат. Калі нас чакае ваша жонка?

— А першай гадзіне, пан інспектар.

— Вось бачыце, а зараз дзесяць мінут другой.

— У нас ёсць машына,— напомніў я шэфу.

— І ўсё ж мы не можам прыняць запрашэння. А што ў вас сёння?

— Маладыя пеўнікі з чырвонакачаннай капустай.

— Ого! Тады не будзем вымушаць вашу жонку чакаць. Мой асістэнт тым часам разведае ў заезным доме наконт свайго валацугі.

Я занадта добра ведаў свайго начальніка, каб прыняць яго словы за чыстую манету. Усе трое мы ўлезлі ў машыну. Мне давялося нават сесці за руль — прыкмета, што інспектар страшэнна спяшаецца.

Калі мы ўвайшлі ў невялічкую кватэру над аптэкай, стол быў ужо накрыты. Пеўнікі былі румяныя, як шчокі ў маладых паненак, а чырвоная капуста духмяна пахла мускатам. Гаспадыня пазірала на нас з радасным тварам. Інспектар засунуў сурвэтку за каўнерык і з амаль рэлігійным захапленнем пачаў есці.

— А з валацугам вашым,— нарэшце загаварыў ён і нацэліўся ў мяне пеўнікавай ножкай,— глупства ўсё. Але, можа, вы,— тут ножка скіравалася ў бок Бесельмана,— сапраўды заўважылі якую-небудзь падазроную асобу?

Обер-вахмістр нешта невыразна прамармытаў, бо сунуў у рот ладны кавалак курацыны і ўслед — абсыпаную кропам бульбіну.

— Ці бачыце,— гаварыў далей інспектар,— тое, як быў зроблены ўзлом, арыентуе нас зусім у іншы кірунак. Грабежнік добра ведаў, што Клёйдэрэра няма дома. Ён удала выбраў момант. Гэта, паверце мне, не выпадковасць. Я ўпэўнены, што злачынец у курсе ўсяго, што робіцца ў Бюхельбурзе.

— Чаму вы, прашу прабачэння, увесь час гаворыце пра аднаго злачынца? — запытаў я.

— А вы думаеце, іх было больш? Што дзейнічала цэлая банда, як, напрыклад, пры абрабаванні пошты ў Англіі?

Бесельман раптам састроіў такую міну, быццам хацеў сказаць нешта вельмі важнае, і нам давялося пачакаць хвіліны са дзве, пакуль ён дажуе сваю бульбіну. Нарэшце, ён вымавіў:

— Што датычыцца банды, то ў нас у Бюхельбургу якраз такая ёсць!

— Ого! — Фаўльхубер адсунуў убок пустую талерку.— І вы выдалі нам гэта толькі цяпер, так сказаць, на салодкае! Пеўнікі вашы, пані Бесельман, былі цудоўныя. Вялікі дзякуй. А калі вы яшчэ скажаце, дзе ў вас кава, я звару паўнюткі кафейнік.

Пані Бесельман зачырванелася і сказала, што каву згатуе сама. Фаўльхубер крыху засмуціўся, бо ён з вялікай радасцю ўтапіў бы добра падсмажанага пеўніка ў сапраўдным «мока».

Тым часам обер-вахмістр пачаў апавядаць нам пра бясчынствы бюхельбургскай банды:

— Калі мы надоечы знайшлі манціровачны ломік, мне адразу нешта цюкнула ў галаву. Але не хацелася абражаць людзей падазрэннем. Мы жывём у маленькім гарадку, і трэба быць вельмі асцярожным у такіх справах. Безумоўна, вы разумееце гэта. Але цяпер, калі мы, здаецца, сыходзімся ў тым, што тут арудавала цэлая банда, я не буду хаваць свае падазрэнні.

Інспектар запаліў цыгару і сказаў:

— Дагэтуль, дарагі Бесельман, вы цудоўна з намі супрацоўнічалі. Магу вам гэта афіцыйна засведчыць. І я маю на ўвазе не толькі пеўнікаў і каву, якую, спадзяюся, жонка ваша нам неўзабаве прынясе. Але вось наконт пытання, ці хаваецца за гэтай гісторыяй банда, мы, на жаль, яшчэ не атрымалі, як вы мяркуеце, яснага ўяўлення. З тым жа поспехам машыну мог украсці і адзін чалавек. Толькі далейшае расследаванне пакажа. А цяпер, калі ласка, раскажыце нам, чаму манціроўка навяла вас на думку аб бандзе.

— Ці бачыце, справа вось у чым: амаль паўгода ўжо наш гарадок тэрарызуюць некалькі юнцоў. Як толькі апусціцца змрок, яны ўзнімаюць на вуліцы гвалт, свішчуць пад вокнамі ў сваіх дзяўчат, а нядаўна адной з іх ноччу спявалі нават сэрэнаду. Пан аптэкар двойчы ўжо скардзіўся мне, што яны перашкаджаюць яму, калі ён пасля вячэры садзіцца за рэцэпты, каб разабрацца, што там, уласна кажучы, напісана.

Але тут якраз пані Бесельман паставіла на стол кубкі, сподкі, смятаннічак і кафейнік. Наліўшы ў кубкі каву, яна ветліва ўсміхнулася нам і пайшла. Фаўльхубер кінуў у чорную жыжу чатыры кавалкі цукру і даў знак обер-вахмістру расказваць далей.

Той адразу ж пачаў з таго месца, на якім яго перабіла жонка:

— І пастар наш рашуча пратэстуе супраць таго, што юнцы гэтыя купаюцца ў Муры,— можа, ведаеце: рачулка такая за Каленбергам. Ад нас да яе і чвэрці гадзіны ходу не будзе.

— Чуў пра яе,— сказаў інспектар.— Але ж вось толькі разумею не дабяру, чаму пастар ваш супраць купання ў ёй. Можа, ён вораг чысціні?

— Што вы! Але яны, як назнарок, купаліся якраз у свята цела Хрыстова, ля самай дарогі, па якой ішла святая працэсія. Ніхто і слова не сказаў бы, каб хлопцы хаця плаўкі нацягнулі. Духавы аркестр пажарнікаў, які ішоў наперадзе шэсця, адразу ж збочыў на прасёлак, і працэсіі прыйшлося дабірацца да горада кружным шляхам. Урачыстасць свята, натуральна, згасла — стомленыя ўдзельнікі хрэснага ходу падаліся ў гасцініцу, і пастар чытаў сваё казанне перад пустымі лаўкамі.

— Шкада, што і гаварыць! — паспачуваў інспектар, а я запытаў у обер-вахмістра, чаму, убачыўшы манціроўку, ён адразу падумаў пра гэтых хлопцаў.

— Таму што ў іх матацыклы. Паўгоначныя, без глушыцеляў — знялі іх. Вушы глухнуць ад д'ябальскага трэскату, калі яны імчаць па вуліцах.

Цяпер я зразумеў, чаму обер-вахмістр злуе на гэтых юнакоў: яны парушаюць цішыню і правакуюць паліцыю.

— Паслухайце, пан Бесельман,— сказаў Фаўльхубер.— Паводле правілаў вулічнага руху, той, хто сваім матацыклам ці машынай узнімае больш, чым гэта непазбежна, шум, падлягае штрафу. Вам гэта вядома, ці ж не так? Вы маглі б спакойна прыняць законныя меры — спачатку папярэдзіць, а потым паслаць афіцыйную павестку аб грашовым спагнанні. На вашым месцы я не цацкаўся б.

*(Працяг будзе).*

